# Бацькаўшчына

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№14 (348) — Нядзеля, 7 красавіка 1957 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 11


# Беларускія сяляне байкатуюць калгасы

Партыйныя й савецкія кіраўнікі, а таксама паслухмяная ім савецкая прэса хваляцца да апошняга часу нязвычайнымі дасягненьнямі ў галіне сельскае гаспадаркі. Асаблівае задаваленьне выклікаюць у іх вынікі нарыхтовак збожжа ў 1956 годзе. Гэтак у звароце ЦК КПСС і Савету міністраў СССР да работнікаў сельскае гаспадаркі адцемлена: «... у краіне нарыхтоўвалася (паводля пляну) 2-2,5 мільярды пудоў збожжа, дык зусім зразумелая і законная радасьць працаўнікоў сельскае гаспадаркі, якія ў 1956 г. змаглі даць у засекі дзяржавы, ня ўлічваючы залікаў і замены іншымі прадуктамі, звыш 3,3 мільярдаў пудоў хлеба» (Известия», 17. 1. 57).

Рэкордны ўраджай і пасьпяховыя нарыхтоўкі збожжа камуністычнае кіраўніцтва ставіць у заслугу тых мерапрыемстваў, якія былі праведзеныя партыяй і ўрадам у вапошнія тры гады, каб «крута падняць сельскую гаспадарку». Найбольш вырашальная аднак роля ў кірунку ўздыму сельскае гаспадаркі прыпісваецца шырокаму асваеньню цальнягоў. За лік цальнягоў і аблогаў пасяўная плошча ў Савецкім Саюзе ў параўнаньні з 1953 годам павялічылася на 38 мільёнаў гэктараў і значна пашырылася плошча пад збожжавыя культуры.

На цальнягох было арганізавана 425 збожжавых саўгасаў, у якіх было засеяна на новых землях каля 10 мільёнаў гэктараў. Вось гэтыя саўгасы ў мінулым годзе і павялічылі нарыхтоўку збожжа на поўмільярда пудоў.

Другая палавіна мільярда пудоў збожжа была ўзятая з калгасаў шляхам г. зв. звышплянавых нарыхтовак. Забіраньне ад калгасаў гэтым спосабам хлеба вельмі простае. Перад зборам ураджаю ў Сібіры і Казахстане былі праведзеныя нарады, у якіх прыймалі ўдзел партыйныя й савецкія кіраўнікі вобласьцяў, краёў і раёнаў, а таксама дырэктары МТС і саўгасаў ды нязначная колькасьць старшыняў калгасаў. Нарады праводзіліся пры ўдзеле самога Хрушчова. Вось-жа на жаданьне Хрушчова на гэтых нарадах на трыбуну падымаліся сакратары абласных і краёвых камітэтаў камуністычнай партыі і ад імя «працаўнікоў зямлі» давалі забавязаньні здаць дзяржаве значную колькасьць збожжа звыш устаноўленых законам нормаў. Зразумелая рэч, што ніякага ўдзелу ў вабгаварэньні магчымасьцяў выкананьня гэтай звышплянавай здачы збожжа запраўдныя працаўнікі зямлі — калгасьнікі ня прыймалі. Для раду вобласьцяў гэтыя звышплянавыя забавязаньні былі такімі цяжкімі, што, ня гледзячы на намаганьні камуністычных кіраўнікоў так і засталіся нявыканальнымі.

Аднак пасьпяховыя нарыхтоўкі збожжа ў 1956 годзе далёка не разьвязалі ў цэлым збожжавае праблемы ў Савецкім Саюзе. Няпэўныя кліматычныя ўмовы і асаблівасьці глебы на цаліне не гарантуюць устойлівых ураджаяў. У гэтых дачыненьнях паказальны 1955 год, калі сухавеі амаль поўнасьцяй зьнішчылі хлебныя культуры на цальнягох.

Цяпер спынімся на палажэньні найважнейшай галіны сельскае гаспадаркі ў Беларусі — збожжавых ураджаях. Згодна дырэктываў XX зьезду КПСС у шостай пяцігодцы вытворчасьць збожжа павінна павялічыцца 2,9 разоў. Аднак, ня гледзячы на выкананьне збожжанарыхтовак у 1956 годзе, прадукцыя збожжа ня толькі не павялічылася, а, відаць, паменшылася. Гэтак на рэспубліканскай нарадзе перадавікоў сельскае гаспадаркі старшыня Савету міністраў БССР Аўхімовіч змушаны быў прызнацца:

«На працягу шэрагу гадоў збожжавая гаспадарка ў рэспубліцы застаецца на нізкім узроўні. Мы яшчэ не дасягнулі давааеннага ўзроўню вытворчасьці збожжа. Гэта сур'ёзна перашкаджае разьвіцьцю іншых галінаў сельскае гаспадаркі» («Советская Белоруссия», 9. 12. 56).

Мінулы год быў характэрны тымі-ж самымі недахопамі, якія спадарожнічаюць сельскай гаспадарцы Беларусі на працягу ўсяго існаваньня калгаснай сыстэмы. Дрэнная апрацоўка зямлі, недахоп угнаеньняў, асабліва арганічных, расьцягнутыя тэрміны пасеву яравых і азімых, зацягнутая ўборка збожжа і супрацiў прыгнечанага сялянства калгаснаму ладу зьяўляюцца непераможнай перашкодай да павялічэньня ўраджаяў. Прывядзём некаторыя факты. Калгасы Драгічынскага раёну Берасьцейскай вобласьці пад прымусам падпісалі «сацыялістычную ўмову» сабраць з палёў у 1956 годзе 10 цэнтнэраў з гэктара збожжа. Аднак восеньню сабралі толькі па 3,5 цэнтнэры з гэктара. А ў суседнім Гарадзішчанскім раёне дакляравалі сабраць 9 цэнтнэраў з гэктара, а намалацілі толькі 4 цэнтнэры.

На колькі нізкія ўраджаі збожжа на Беларусі, сьветчыць і наступны факт. У савецкай прэсе 17 студзеня сёлета быў абвешчаны зварот ЦК КПСС і Савету міністраў СССР да ўсіх работнікаў сельскае гаспадаркі. У гэным звароце з націскам падчыркнута, што на працягу раду гадоў шмат калгасаў і саўгасаў Беларусі й некаторых раёнаў РСФСР атрымліваюць ураджаі збожжа, ня вышэйшыя за 3-4 цэнтнэры з аднаго гэктара.

У калгасе імя Хрушчова Пухавіцкага раёну Менскай вобласьці пад пасевамі розных культур у 1956 годзе знаходзілася 1288 гэктараў. У 1955 годзе гэны калгас сабраў толькі па 2 цэнтнэры збожжа з гэктара. Не палепшылася палажэньне і ў сёлетнім годзе. Гэтак у 1953 годзе калгас зьбіраў па 4,5 цэнтнэраў азімай пшаніцы з гэктара у 1954 — па 3,9, а ў 1955 — па 2,5 цэнтнэры. У 1955 г. калгас зь цяжкасьцямі выдаў на кажны выпрацаваны дзень па 350 грамаў збожжа, паўтара кіляграма саломы й сена і толькі па 66 капеяк грашыма («Советская Белоруссия», 27. 9. 56).

У паведамленьні Статыстычнай управы БССР падаецца да ведама, што ў мінулым годзе наагул павялічыўся агульны збор збожжавых культур. А старшыня Савету міністраў БССР навет паінфармаваў, што агульны збор збожжа ў 1956 годзе павялічыўся на 175 тысяч тонаў у параўнаньні з 1955 годам. Аднак вышэй пералічаныя факты выклікаюць вялікі сумлеў, што сёлетні ўраджай на Беларусі быў лепшы, чымся ў мінулыя гады.

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# «Буржуазныя нацыяналістыя — зраднікі краіны»

**Амэрыканскае тэлеграфнае агенцтва United States Information Service перадало 26 сакавіка наступную вестку:**

**«Савецкая камуністычная прэса выступіла з атакай супраць нацыяналістычных плыняў у Ўкраіне й Беларусі, папярэджваючы сяброў партыі, што яны мусяць быць больш пільнымі ў змаганьні з праявамі антыкамуністычных поглядаў.**

**Газэта «Советская Белоруссия» піша, што буржуазныя нацыяналістыя зьяўляюцца зраднікамі краіны й найгоршымі ворагамі пабудовы сацыялізму ў Беларусі...**

**«Атака супраць нацыяналістычных праяваў у Беларусі супала з адзначваньнем Беларусамі, якія жывуць у вольным сьвеце угодкаў кароткага пэрыяду незалежнасьці іхняе Бацькаўшчыны, абвешчанай 25 сакавіка 1918 году. Беларуская незалежнасьць была здушаная савецкімі камуністымі й зь Беларусі была ўтвораная савецкая правінцыя».**

# На маргінэсе

Прыблізна 3 месяцы таму ворган Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Польшчы, беластоцкі тыднёвік «Ніва» пачаў дыскусію з «Бацькаўшчынай», ставячы ёй пэўныя канкрэтныя, хоць і неабгрунтаваныя, закіды. Вымена думкамі — хай навет із зусім супрацьлежных пазыцыяў — не пашкодзіць ніколі; на думку аўтара гэтых радкоў, яна карысная і ў такім выпадку, калі нехта з удзельнікаў дыскусіі ня хоча (а мо й ня можа?) дацца сябе пераканаць. Але трэба, каб такая вымена думак адбывалася на ўзроўні, паводля хоць-бы элемэнтарных правілаў журналістычнае этыкі. Гэтым, нажаль, рэдактары «Нівы» пахваліцца ня могуць. Да такога высnаву прыйдзе кажны, хто прачытае іхны «Адказ мюнхенскім 'барацьбітам'», зьмешчаны ў «Ніве» за 24 лютага г. г. Гэта меўся быць адказ рэдакцыі «Бацькаўшчыны» на ейны адказ «Ніве» (гл. «Б-ну» н-р 6/340).

Як мы ўжо сказалі, сам факт дыскусіі трэба толькі вітаць. Яшчэ год таму яна была наагул выключанай, і наўрад ці рэдактары «Нівы» ведалі што-небудзь ня то што аб «Б-не», але й аб беларускай эміграцыі наагул. Дзякуючы новай палітычнай каньюнктуры ў Польшчы, зялезная заслона крыху паднялася. Крыху пашырыліся й магчымасьці культурнае працы нацыянальных меншыняў. Гэтым трэба толькі цэшыцца, але захапляцца яшчэ далёка няма чым. У сваёй зацемцы «Да рэдакцыі «Бацькаўшчыны» К. Балінскі закідаў ёй, што яна «вузка разумее зьмены, якія адбываюцца ў Польшчы». Ён глыбака памыляецца. Калі такі закід можна каму паставіць, дык толькі яму. Прыгадваецца анэкдот пра Жыда, які пайшоў да рабіна, жалячыся, што ў яго вельмі цесна ў хаце. Рабін загадаў яму ўзяць у хату курэй, пасьля — гусей, і ўрэшце — казу. Калі пасьля Жыд прыйшоў із скаргай, што больш ён ужо ня можа вытрываць, рабін загадаў яму выгнаць з хаты і курэй, і гусей, і казу. Жыд ня мог аддзякавацца рабіну за тое, што ў яго ў хаце так пасвабаднела... Гэтак з пэрспэктывы выглядае ў дачыненьні да нацыянальных меншыняў і славутая дэмакратызацыя ў Польшчы.

Але вернемся да адказу «Нівы». Я, крый Божа, ня зьбіраюся тут рабіць нейкага крытычнага аналізу цьверджаньняў «Нівы» ў ейным адказе: я хацеў-бы зрабіць толькі некалькі заўвагаў на маргінэсе.

Першым чынам, «Ніва» называе «Б-ну» рэакцыйнай, ужываючы гэтае слова хіба што ў бальшавіцкім разуменьні. Хіба што — бо свайго цьверджаньня не абгрунтоўвае. У бальшавіцкім-жа разуменьні рэакцыянэрамі зьяўляюцца ўсе, хто ня думае паіхняму. Рэакцыянэрамі зьяўляюцца для іх тым больш тыя, хто зьяўляецца іхным адкрытым ворагам. Гэтак званыя «буржуазныя нацыяналістыя» — інакш кажучы, патрыёты паняволеных бальшавізмам нерасейскіх народаў — аўтаматычна падпадаюць пад гэтую рубрыку. У гэтым выпадку нам не застаецца нічога, як толькі падзякаваць «Ніве» за камплімэнт.

Асабліва адзначаецца «Адказ» «Нівы» дэмагагічным шуканьнем дзюркі ў цэлым. Прыкладам, ніхто ў «Б-не» ня цьвердзіў, што «Б-на» — гэта тое самае, што і ўся беларуская эміграцыя. Але што «Б-на» выказвае ў васноўным імкненьні ўсяе нашае палітычнае эміграцыі — гэта праўда. Гэтыя імкненьні можна сфармуляваць у вадным сказе: вызваленьне Беларусі ад расейскага бальшавізму, аднаўленьне нашай незалежнай дзяржавы ў этнаграфічных межах, устанаўленьне ў ёй запраўды дэмакратычнага ладу. Беларуская палітычная эміграцыя змагаецца за незалежную Беларусь без калгасаў, але й без абшарнікаў, безь дзяржаўнае эксплёатацыі, але й без манаполю капіталу. Мы змагаемся за палітычную й сацыяльную дэмакратыю ў вольнай Беларусі. З гэтага гледзішча, «Б-на» зьяўляецца выказьнікам імкненьняў ня толькі беларускай эміграцыі, але й цэлага беларускага народу. А што сярод беларускага грамадзтва на эміграцыі йснуюць розныя палітычныя плыні, дык гэта нармальна ўва ўмовах дэмакратыі: кажны кіруецца сваім нацыянальным сумленьнем у выбары шляхоў да агульнай мэты.

«Ніва» намагаецца прадставіць нашых дзеячоў на эміграцыі, як гітлераўскіх калябарантаў, якія, «баючыся народнага гневу», уцяклі на Захад. Яна піша: «Дазвольце-ж вам прыгадаць, што ў час вашае 'нацыянальнай дзейнасьці' беларускі народ змагаўся ў партызанах супраць сваіх сьмяротных ворагаў, пры дапамозе якіх вы хацелі 'ашчасьлівіць' Беларусаў».

Рэдактары «Нівы» ведаюць вельмі добра, што ніводзін цьвяроза думаючы чалавек не рабіў сабе ніякіх ілюзіяў адносна палітыкі гітлераўцаў у дачыненьні да Беларусі. Акрамя некалькіх афэрыстых, беларуская інтэлігенцыя выкарыстоўвала толькі тыя абмежаваныя магчымасьці нацыянальнай працы, якія тады йснавалі. Яна, як магла, так бараніла беларускае насельніцтва як ад самаволі гітлераўцаў, так і бальшавіцкіх партызанаў, якія спалілі на Беларусі ня менш вёсак за гітлераўцаў. Бязумоўна, было шмат у партызанах і сумленных Беларусаў, якія апынуліся там ці то ў выніку злачыннае практыкі гітлераўцаў, ці былі сілай загнаныя бальшавіцкімі палітрукамі. Але няўжо рэдактары «Нівы» хочуць сказаць, што беларускі народ змагаўся за аднаўленьне калгасаў і бальшавіцкае самаволі, якая цяпер і далей пануе на Бацькаўшчыне? Няўжо сумленны Беларус, мог змагацца за паварот іншых, ня менш нялюдзкіх акупантаў, якія да гэтага абрэзалі Беларусь тэрытарыяльна, не забясьпечыўшы насельніцтву на раздадзеных тэрыторыях навет пашаны правоў нацыя-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# За мінулы тыдзень

**(пс)** Хаця НАТО — далёка ня ідэальны антыбальшавіцкі саюз, усё-ж ён муляецца й псуе нэрвы Маскве. Гэта найлепш пацьвярджаюць апошнія ноты Булганіна да прэм'ераў Нарвэгіі й Даніі. У гэтых нотах Булганін тлумачыць скандынаўскім прэм'ерам, што іхны ўдзел у НАТО пагражае іхным краінам цяжкімі наступствамі. У выпадку вайны першыя савецкія вадародныя бомбы й кіраваныя ракеты пасыпляцца на скандынаўскія краіны. Таму, каб гэтай прыемнасьці пазьбегнуць, Булганін раіць Нарвэгіі й Даніі загадзя выступіць з Паўночна - Атлянтычнага абароннага Пакту.

Гэта ўжо далёка ня першы нахабны шантаж маскоўскіх сатрапаў. У лістападзе мінулага году Булганін махаў вадароднай бомбай ды кіраванымі ракетамі перад насамі Ідэна й Моле, крышку пазьней страшыў Адэнаўэра. Здаецца спужаўся толькі адзін Ідэн і разхварэўся з ураджаньня. Іншыя засталіся здаровыя.

Як выглядае, цяпер ня спужаліся ні Нарвэгія ні Данія й Булганін стрэліў у пустую.

Савецкая афэнзыва пагрозаў і маханьня кулакамі адбываецца на шырокім фронце. Ноты да Нарвэгіі й Даніі папераджалі войстрыя выступленьні савецкай прэсы супраць Швэцыі, якой закідалася адступленьне ад палітыкі нэўтральнасьці. Яшчэ раней Крэмль страшыў Турцыю й Грэцыю. Нядаўна, з нагоды прыезду ў Маскву вугорскіх мар'янэткаў, Булганін гвалтоўна вызьвярыўся на Ціто. У гэтым самым выступленьні Булганін перасьцерагаў ангельскі ўрад, што ён узяў на сябе цяжкую адказнасьць, бо згадзіўся ўзяць ад Амэрыкі кіраваныя ракеты.

Адным словам, у Крамлі ня вельмі пануюць над сваімі нэрвамі.

Найлепшым адказам на гэтыя ўсе хамскія выступленьні калектыўнай супалкі была-б актывізацыя супрацьбальшавіцкай акцыі на Захадзе, а перадусім узмацненьне патэнцыяльнай сілы НАТО. Гэта-б папсула жываты маскоўскім завадзілам. Нажаль тэмпы гэтых акцыяў недалёка адыйшлі ад маратонскага бегу спаралізаванай чарапахі...

*

Кажны волялюбны чалавек з сымпатыяй і спачуваньнем сочыць за змаганьнем маладой і малой дзяржавы Ізраэля за сваё існаваньне й свой гонар. Гэта дзяржава, акружаная шматмільённым варожым арабскім сьветам, ня толькі змагла захаваць і абараніць сваю незалежнасьць, але й нокаўтаваць сваіх ворагаў. Апошнім часам, калі Англія й Францыя пад ціскам АЗН, Амэрыкі й пагрозамі Савецкага Саюзу ўступілі, Ізраэль не заламаўся й вывеў сваё войска з Сынайскага паўабтоку толькі ўмоўна. АЗН не змагла датрымаць умовы й змусіць Насэра падпарадкавацца, а таму канфлікт паміж Ізраэлем і Эгіптам далей застаецца актуальным, а раён Газы — найбольш нэўральгічным пунктам, дзе ў кажную хвіліну можа запахнуць порахам.

Аўтару гэтых радкоў давялося некалькі месяцаў жыць у Газе. Можна было-б толькі дзівіцца, што гэты няцікавы, нудны й брудны горад стаўся такім нэўральгічным пунктам, а тым больш заняў пачэснае месца ў гісторыі сьвету.

Вось-жа змаганьне за Газу пачалося 3500 год таму. За гэты пункт змагаліся ня толькі Ізраэль з Эгіптам, але Асырыя, Пэрсія, Рым, Александар Мацэдонскі, Музульманская імпэрыя, Напалеон, Вялікая Брытанія і, Бог ведае, яшчэ хто. Там Самсон асьліннымі санкамі біў Філістынаў, Далільля прадала непераможнага Самсона, наступнік Майсея, Ёзуэ, там біў Эгіпцянаў, гэтыя пазьней, наадварот, білі Жыдоў. Менш-больш 3000 год таму Салямон мудры (калі будзем яго лічыць мудрым), ажаніўшыся з дачкой фараона, атрымаў Газу як пасаг. Аднак змаганьні за гэты пункт, як бачым, ня кончыліся да сяньняшняга дня.

Рэч зразумелая, той факт, што Газа дасталася Салямону, а гэтым самым Ізраэлю ў пасагу — недастатковая прычына, каб яна й цяпер належала да Ізраэля. Аднак гэаграфічна й эканамічна Газа ёсьць часткай Палестыны, а ня Эгіпту. Да гэтага, і найбольш важным, зьяўляецца факт, што Газа знаходзіцца толькі 40 кілямэтраў ад Тэль-Авіву, затое больш чымся 200 кілямэтраў ад Каіру. Гэтым самым Газа ў эгіпскіх руках — нож ля горла Ізраэля. Як ведаем, апошніх 8 год гэта быў цэнтр эгіпскай дывэрсіі й бязупынных нападаў Арабаў на ізраэльскую тэрыторыю.

Таму было-б зусім слушна, каб АЗН, якая пакліканая пільнаваць супакою, спыніла эгіпскае пірацтва ў гэтым раёне. Пэўна, яшчэ лепш было-б, каб, напрыклад, паміж вугорскімі рэвалюцыянэрамі й савецкай арміяй у лістападзе мінулага году стаяла армія АЗН. Ну, але тут мы ўваходзім у сфэру ўтопіі...

Аднак інтэрвэнцыя АЗН у эгіпска-ізраэльскім канфлікце магла-б быць справай зусім рэальнай, каб толькі гэта арганізацыя была здольная хоць-бы да якой-колечы эфэктоўнай дзейнасьці апрача гаварэньня...

# У паняволенай Беларусі

### ЗАКОН АБ ПЭНСІЯХ ЁСЬЦЬ, А ТОЛКУ МАЛА.

Міністар сацыяльнага забесьпячэньня БССР Е. Гуцэнкава ў сваім артыкуле, надрукаваным у газэце «Советская Белоруссия» з 21-га сакавіка гэтага году, піша:

«У дзейнасьці органаў сацыяльнага забесьпячэньня Беларусі ёсьць сур'ёзныя недахопы. У некаторых аддзелах дрэнна арганізавана прыймо неведвальнікаў, утвараецца чарга... У некаторых аддзелах сацыяльнага забесьпячэньня нездавальняюча працуюць камісіі па прызначэньню пэнсіяў. Ня вызначаны пэўныя дні паседжаньняў камісіяў, ня ўсе сябры камісіяў удзельнічаюць у рабоце. На паседжаньнях парушаюцца ўстаноўленыя тэрміны разгляду заяваў і дакумантаў... Камісія пры Выканкоме Барысаўскага Гарадзкога Савету ня склікала паседжаньняў на працягу ўсяго студзеня 1957 году, і значная колькасьць заяў ня была разгледжана. Парушаюцца тэрміны і ў Брэсцкім горсабезе. За апошні час у міністэрства сацыяльнага забесьпячэньня, у вабласныя аддзелы, у вышэйстаячыя арганізацыі прыходзіць вялікая колькасьць лістоў ад грамадзян. Яны просяць растлумачыць асобныя артыкулы закону й палажэньня аб парадку прызначэньня й выплаты дзяржаўных пэнсіяў. Прыходзяць таксама скаргі на несвоечасовае прызначэньне пэнсіяў камісіямі пры выканкомах райсаветаў дэпутатаў працоўных. Маюць месца выпадкі, калі загадчыкі аддзеламі сацыяльнага забесьпячэньня, работнікі аддзелаў допускаюць бюракратызм і валакіту ў разглядзе заяў і скаргаў працоўных».

Адным словам, закон аб пэнсіях ёсьць, а толку мала.

### СЫРАВІНА ЁСЬЦЬ, А ВЫРАБАЎ НЯМА

«Газэта «Советская Белоруссия» з 22-га сакавіка 1957 г. у сваей перадавіцы піша:

«У Беларусь да апошняга часу прывозяцца з другіх рэспублікаў драўляныя цацкі, дзіцячыя кубікі, вучнёўскія пэналы, камбінаваныя кухонныя талеркі й іншыя такія-ж нямудрыя рэчы. Шмат якія адкіды лясное прамысловасьці па барбарску зьнішчаюцца. А ў той самы час бандарныя вырабы, тапарышчы, вешакі для вопраткі, качалкі для цеста й іншыя рэчы можна купіць толькі ў прыватніка на рынку. Ідзе жвавы прыватны гандаль фасаванай крэйдай, плецянаю мэбляй, якіх ніяк ня знойдзеш ні ў дзяржаўных, ні ў каапэратыўных крамах.

Беларусь мае ўсе віды сыравіны, асабліва драўніны, а драўляных вырабаў няма: яны прывозяцца зь іншых рэспублік. У гэтым уся «мудрасьць» савецкае камуністычнае сыстэмы.

### ГНОЮ МАЛА, А ТОРФУ НЯМА

У гэтым самым нумары «Советской Белоруссии» сакратар Чэрвеньскага райкому партыі гаворыць:

«Для павышэньня ўраджайнасьці нам перш за ўсё патрэбны ўгнаеньні. Угнаеньні, угнаеньні і яшчэ раз угнаеньні». Але-ж, як бачым, гэта не такая лёгкая справа. Чаму? На гэта адказвае той самы сакратар райкому:

«З вывазам угнаеньняў на палі мы адсталі таму, што няма чаго вывозіць: гною мала, а торфу няма, хоць і жывем сярод балотаў... У калгасах раёну мала яшчэ гною, павялічыць яго пры той колькасьці жывёлы, што маем, і пры тых абставінах, што склаліся, немагчыма...»

Спэцыяльны карэспандэнт газэты сьцьвярджае, што ў хлявох «жывёла літаральна топіцца ў гразі».

### «ЗАБЯСЬПЕЧАНАЯ СТАРАСЬЦЬ»

У гэтым самым нумару «Советской Белоруссии» паведамляецца аб шчасьлівым жыцьці найстарэйшай жыхаркі Баранавічаў — Кандрашовай: «Нядаўна ёй мінула 103 гады, але яна ўсё яшчэ бярэ ўдзел у працы. Жыве Кандрашова ў сям'і свае дачкі. Іхны пакой маленькі».

Гэта называецца «забясьпечанай старасьцяй».

# Бачым хваробу, а чым лячыць?

Спадар М. Вярба ў «Бацькаўшчыне» № 341 у вартыкуле на тэму «Пытаньне, якому трэба больш увагі» разглядае факты злоснага перакручваньня імя «Беларус» на «Расеец». Найбольш яркім прыкладам гэтага быў плягіят ведамых кружэлак нашага любэнскага студэнцкага хору.

Гэты плягіят зрабіла фірма «Стынсон», зьмяняючы ўспомненыя кружэлкі зь беларускіх на «рашн рэкордс». Пачын, які ў нармальных умовах падпадае пад параграф судовае адказнасьці.

З фактам гэтае нахабнасьці фірмы «Стынсон» спаткаўся й я ды сваечасова заалярмаваў нашых лювэнцаў, каб справу перадалі ў суд. Нажаль, ня было падставаў, каб гэта зрабіць, бо на кружэлках ня былі засьцярожаныя правы аўтарства, а таму той, хто іх пераграў, не падпадаў пад судовую адказнасьць. Таксама й замена назову Byelorussian на Russian не падпадае пад параграф судовае адказнасьці, бо фірма «Стынсон» наіўна ці крывадушна можа заявіць, што яна «не разьбіраецца ў расейскіх колерах», а таму й прыняла сярэдзіну, толькі „Russian".

Цаню Вашае абурэньне, сп. Вярба; я меў яго таксама, калі пабачыў гэтыя кружэлкі. Ды сваё абурэньне перажыў тым больш балюча, бо яно было бясьсільным: я ня мог ударыць па гэтым нахабным бандытызьме. Цяжка сабе ўявіць большую нахабнасьць. Папершае — бясспраўна прысабечанае аўтарства, падругое — зьменены асноўны нацыянальны сэнс, нацыянальная асабовасьць беларускіх песень, якія пайшлі ў сьвет, як расейскія.

А фірма «Стынсон» ведала, што робіць. Ня зьбіраючыся адгадваць, якімі матывамі яна кіравалася, але ўжо дастаткова таго, што з поўнага камплекту лювэнскіх кружэлак адно не перайграла нашага нацыянальнага гымну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» ды «Магутны Божа»,

«А што ў нас зроблена, каб выправіць гэтую дэзінфармацыю» — пытае сп. Вярба ў заканчэньні свайго артыкулу; «думаю, што нічога» — сам далей дае адказ.

Да гэтых «нас» належыць таксама і сп. Вярба. Трэба быць яму ўдзячным, што ён сваім абурэньнем падзяліўся публічна ў прэсе, хоць нажаль, далей гэтага не пайшоў. Думаю ня трэба аргумэнтаваць, што калі-б, скажам, падобныя артыкулы паўтараліся навет у кажным нумары «Бацькаўшчыны», дык усядно такія неспадзеўкі, як гэта здарылася ў выпадку фірмы «Стынсон», ня прыпыняцца.

Добрая парада пісаць ды папулярызаваць нашую справу ў англамоўных газэтах ды часапісах, але паўстае канкрэтнае пытаньне — як гэта правесьці?

З маіх прыяцеляў, мгр. Манькоўскі стараўся нешта пісаць, нажаль, як дасюль, здаецца нічога не зьявілася ў „New York Times", куды ён пасылаў свае артыкулы. І не таму, што яны былі слабыя — на гэта ёсьць іншыя прычыны, на якіх я й хачу тут крыху спыніцца.

За выняткам тых, хто беспасярэдна займаецца, ці сустракаецца з праблемамі замежнае палітыкі, для Амэрыканца сярэдняга інтэлектуальнага узроўню „Byelo- ці White Russia ці Russia, застаецца згары разьвязаным паняцьцем — Russia. І пры сучаснай палітычнай сытуацыі, з пакладам псыхалягічнай уражлівасьці, усё тое, што толькі мае якоеколечы дачыненьне да Расеі, для іх няпрыемнае ды настаўляе іх нэгатыўна да ўсяго, што толькі зьвязана з гэтым імём. Таму зусім ясна й лягічна, што гэтая прэса для нас на сяньняшні дзень недаступная. Калі-б навет сп. Вярбу ці камусьці іншаму ўдалося навязаць кантакт зь ніжэйшымі ўрадаўцамі нейкае англамоўнае газэты, ня знойдзе такога, які-б салідна ды пасьлядоўна ўзяўся папулярызаваць нашую справу. Гэткі тэарэтычны наш прыяцель не зьявіўся дасюль таму, што на асьведамленьне й знаёмства з нашай нацыянальнай справай і агульнай праблемай патрэбны час, патрэбна грунтоўнае студыяваньне. А тут-жа «час — гэта грошы». Да гэтага-ж газэта піша тое, што чытач ці падпішчык любіць чытаць. А можам мы спадзявацца, каб гэты чытач зразумеў, што могуць існаваць нейкія

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

# Беларускія сяляне байкатуюць калгасы

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

Партыйныя й савецкія кіраўнікі ў Беларусі цяпер шукаюць прычынаў, на якія можна было-б сапхнуць віну за нізкія ўраджаі збожжа ў калгасах. Першы сакратар ЦК КП Беларусі Мазураў уважае, што недахопы ў сельскай гаспадарцы краіны тлумачацца дрэнным узроўнем арганізацыйнай працы ў калгасах, саўгасах і МТС. Іншага пагляду старшыня Савету міністраў БССР. Ён упікае калгасам, што яны да гэтага часу не ўвялі на палёх севазваротаў, тлумачучы, што таму й зямля дрэнна родзіць.

Як дасягненьне, камуністычная прапаганда падчырквае, што на Беларусі ў сельскай гаспадарцы працуе звыш 15 тысяч розных спэцыялістых — аграномаў, заатэхнікаў і інш. Апрача спэцыялістых, у калгасах і саўгасах налічваецца звыш 35 тысяч камуністых. У канцы 1955 году выбрана 960 камуністых, якія былі накіраваныя на становішчы старшынь калгасаў. Паведамлялася таксама, што палавіна старшынь калгасаў маюць вышэйшую й сярэднюю асьвету. Аднак уся гэтая паслухмяная й шматлікая армія камуністычных арганізацыяў і спэцыялістых амаль на трыццатым годзе існаваньня калгаснай сыстэмы ня здолела арганізаваць калгасьнікаў і навет увесьці на калгасных палёх севазварот. Няма сумлеву, што сярод спэцыялістых ёсьць людзі здольныя, каб завесьці севазвароты.

Нізкая ўраджайнасьць на калгасных палёх і наагул «правалы й промахі» ў сельскай гаспадарцы маюць іншыя прычыны, чымся севазвароты й дрэнная арганізацыя працы. Мільёнными масы паняволенага сялянства ня прыймаюць калгаснай сыстэмы і да гэтага часу вядуць у розных формах бесьперапыннае змаганьне супраць калгаснага прыгону.

Гэта і ёсьць аснаўная й галоўная прычына, што сельская гаспадарка Беларусі ня можа выйсьці з пэрманэнтнага занядаду. Не зацікавілі калгасьнікаў ніякія прэміяльныя аплаты працы, ні значнае павышэньне аплаты прадукцыі, якую здаюць калгасы дзяржаве. Відаць, савецкае кіраўніцтва ў пошуках выхаду зь цяжкага становішча на Беларусі стала на шлях далучэньня непапраўных калгасаў да саўгасаў, а то і проста арганізацыі саўгасаў з калгасных зямель. На 4-ай сэсіі Вярхоўнага Савету Беларускай ССР было паведамлена, што «ў 1956 годзе ў рэспубліцы праведзеная вялікая праца для стварэньня новых узбуйненых і дробных саўгасаў за лік эканамічна слабых калгасаў, у выніку чаго плошча саўгасаў павялічылася амаль у тры разы» («Советская Белоруссия». 13. 3. 57).

Факт надзвычайнай важнасьці! У 1955 годзе на Беларусі налічвалася 4 800 калгасаў, а ў 1956 годзе было ўжо 4 454. Выходзіць, што ў выніку «вялікай працы» калгасьнікі 346 калгасаў былі зьмененыя ў саўгасных батракоў. Як адклікнецца беларускае сялянства на гэтую форму прымусу, згадаць ня цяжка. Гэтую рэакцыю нашага сялянства можна пабачыць і з наступнага факту: калі ў 1955 годзе з агульнага ліку 113 саўгасаў на ўсей Беларусі было стратных 41, дык у 1956 годзе іх стала ўжо 76 або 86 працэнтаў агульнага ліку.

**В. Б.**

# На маргінэсе

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

нальнае мяншыні? Мы вельмі сумляваемся.

Як ведама, калі аднаму з удзельнікаў дыскусіі не стае аргумантаў, дык яму застаецца толькі адна альтэрнатыва: або прызнаць рацыю праціўніку, або застацца «пры сваім» наўсуперак фактам і лёгіцы. У вапошнім выпадку ёсьць яшчэ адна зброя, хоць і ня надта шляхотная — лаянка. Бальшавікі карыстаюцца ёй штодня й штогадзіны. Нажаль, тым-жа шляхам пайшла і «Ніва» ў сваім «Адказе». Яна піша: Нам запраўды ня ўзбрыдзе на думку пісаць, 'што ў БССР праводзіцца шалёная русыфікацыя й нішчэньне ўсяго, што нацыянальнае, што беларускае'. Запраўды, **такую фальшыўку маглі выдумаць людзі шалёныя»** (падкр. наша — У. Н.) Прачытаўшы гэта, аўтару гэтых радкоў так і захацелася напісаць на маргінэсе: Ай, як няпрыгожа, спадары зь «Нівы»! Спакойна! — пашто-ж лаяцца? Ці ня лепш было-б давесьці, што «Б-на» ня мае рацыі? Можа-б вы нам давялі, што зьнішчэньне сотняў нашых носьбітаў культуры было яшчэ аднэй праявай клопатаў мудрай партыі й ураду аб беларускім народзе? Што накінутая ўказам у 1933 годзе рэформа беларускага правапісу — гэта не русыфікацыя? Ці мова сучасных беларускіх савецкіх газэтаў — гэта не расейска-беларускі жаргон? (Зрэшты, ад некаторага часу пачынаеце ім карыстацца й вы...) А можа вам каму давядзецца быць у сталіцы «незалежнай» БССР, у Менску — загляньце там у першую-лепшую ўстанову: якую мову там пачуеце?..

Праўда, нашым беластоцкім суродзічам, якія толькі нядаўна атрымалі магчымасьць пэўнай нацыянальна-культурнай працы (аб нацыянальнай аўтаноміі гаварыць не даводзіцца, і наўрад-ці давядзецца), можа імпанаваць колькасьць газэтаў і часапісаў у беларускай мове, якія выдаюцца ў БССР. Але, не гаворачы ўжо аб пакалечанай мове, ці зьмест іх беларускі, Хапіла толькі «Літаратуры і мастацтву» зьмясьціць артыкул, які не спадабаўся маскоўскім цэнзарам, і паляцела цэлая рэдакцыя на чале з галоўным рэдактарам...

Вось некалькі думак на маргінэсе адказу «Нівы». Шмат можна было-б напісаць яшчэ аб гэтым адказе. Прыкладам, «Ніва» закідае «Б-не», што гэтая апошняя хацела-б «выпаліць Беларусь атамовымі бомбамі...» Але на гэта хай адкажа лепш наш калега **пс**, рубрыка якога пазволіла «Ніве» зрабіць аж так страшныя высновы.

**Ул. Нямановіч**

---

**Зінаіда Бандарына** 3)

# Ой, рана на Йвана

(Старонкі маленства Янкі Купалы)

Ахопленая ўспамінамі перажытага, дня, Бянігда расказвае сыну:

— Ужо як яна правярала! Пярсьцёнак свой зь мезенца зьняла, пад яго маю пражу заклала. Тады зноў той персьцёнак на палец надзявае. Я гляджу ды сама сабе разважаю: ні села ні пала, захацела баба сала. Як не адзенецца той пярсьцёнак, не спадабаецца пані мая праца...

— Чаму не спадабаецца? — Янка абезьвюма рукамі абдымае маці, нібы хоча абараніць яе ад усіх няшчасьцяў.

— Бо ніхто ёй яшчэ не дагадзіў, — ціха адказвае маці, а шчасьлівая ўсьмешка на яе твары не пасуе да сумных слоў, і Янка ўжо прадбачыць добры канец.

— А пярсьцёнак пані надзела! — радасна працягвае ён. — Ніхто лепш за цябе ня зробіць, праўда, матуля?

— Кажная справа свайго майстра чакае... А ты забудзься на тое, што было, не гаруй. Пайду вячэру зьбіраць. Павячэрае тата, падабрэе...

Янка заплюшчыў вочы, а перад ім зноў маці. Няма на сьвеце яму нікога больш блізкага й роднага, чым яна.

Як ні шукаў, ня выявіў прапажы Дамінік. Павячэраў зь сям'ёй. Пачакаў, пакуль гаспадыня прыбярэ із стала. Потым паклікаў маці, паказаў месца каля сябе — садзіся.

Ні жывы ні мёртвы Янка вачэй ня зводзіў з бацькі.

«Чаго-ж ён марудзіць, адразу-б ужо гаварыў, якое пакараньне прыдумае... Чаго патрабуе пан?..»

Не разумее хлопчык: злуе бацька ці не? Заўсёды ён цяпер пахмуры, заклапочаны. Глядзіць перад сабой, нешта абдумвае. То на маці паглядзіць, то зь яе перавядзе вочы на Янку.

Цягнуцца хвіліны. Не сьпяшаецца Дамінік. Пацёршы далоньню лоб, загаварыў спакойна, абдумваючы кажнае слова:

— Кінь перад сабою — знойдзеш за сабою... Надумаўся я выводзіць Янку ў людзі... Па здароўю ён слабы. Трэба яго граматы вучыць, хоць канторшчыкам будзе... Ды вось выдаткаў не абярэшся... Прыйдзецца ўжо ў тым-сім адмаўляць сабе... Хто глядзіць вокам, той ня пойдзе бокам...

Абапёршыся на стол локцямі, Бянігда толькі зрэдку ківала галавой. Упяршыню Янка заўважыў, якая яна прыгожая. Прадаўгаваты матавы твар з пяшчотным румянцам, невялікі роўны нос, а вочы... Здавалася, нязвычайнае сьвятло выпраменьвалі яны, саграваючы ўсё вокал. Сьветлыя гладкія валасы схаваны пад хусткай, павязанай вакол галавы. Увес убор яе складаўся з палятнянай вышыванай кашулі, такога-ж хвартуха ды паласатага ў дробныя зборкі андарака. Усё выткана сваімі рукамі, якія не баяцца ніякай працы. Мілая мама! Сядзіць, не зварухнецца, слухае. І ведае Янка: яна на ўсё згодна, ува ўсім сабе адмовіць, толькі было-б добра яе сыну.

— Добра-б у школу аддаць, — гаворыць далей Дамінік.

Янка й маці зьбянтэжана пераглядваюцца. Школ паблізу няма. Надумаецца бацька, адашле ў мястэчка. Ды як-жа яны могуць жыць у разлуцы! Гэтую трывогу расьсейваюць бацькавы словы.

— Аб школе й думаць няма чаго, далёка... А вось у суседнім хвальварку ёсьць у мяне на прыкмеце пісьменны чалавек. Думаю, за плату згодзіцца яго навучаць...

— Заплоцім! Усё, што скажа, заплоцім! — падхапіла Бянігда.

### У НАСТУПНУЮ НЯДЗЕЛЮ

Янка прыгнаў каровы. Маці напаіла яго сырадоем. Потым вымыла сына, дала надзецца ў чыстае й пасадзіла за стол.

— Сядзі тут, прыйдзе пан настаўнік, будзеце вучыцца!

У хаце было прыбрана, як перад самым вялікім сьвятам. Чыста вымытая падлога заслана каляровымі палавікамі. На стале карункавая сурвэта. Лісьце на кветках, што стаялі на покуце й на падаконьніках, перацёрта, блішчыць, як лякіраванае. Зьзяе ля печы на куфры самавар, начышчаны крэйдай. Ціха й душна. На печы старанна мыецца кот. Хіліць хлопчыка да сну, самі зьліпаюцца вочы.

Праз сон пачуў Янка голас маці:

— Проша, паночку, у хату, проша!

І ў хату ўвайшоў паголены, падобны на ксяндза панскі канторшчык. За ім — Дамінік.

Бянігда, узяўшы самавар, пайшла ў сенцы. Бацька пазнаёміў пана канторшчыка зь Янкам, запрасіў яго сесьці й сам прысеў у канцы стала.

Янка неяк адразу адчуў няпрыязнасьць да свайго першага «настаўніка». Чаму? Ён ня мог на гэта адказаць. Але й белыя потныя рукі, і лысіна, і нейкая лісьлівая, саладжавая ўсьмешка — усё здалося такім агідным, брыдкім, што хацелася хутчэй выскачыць з-за стала, схавацца за маці.

Пачалося вучэньне. Канторшчык разгарнуў чорны малітвеньнік. Манатонна, расьпяваючы, чытаў «пацеры». Янка, не разьбіраючы слоў, нічога не разумеючы, павінен быў паўтараць папольску: «Дзісь сьвенты дух сон...» Язык не падпарадкоўваўся хлопчыку, галава хілілася на бок. «Дзі-сон, дзі-со-он, дзі-со-он» — мармытаў ён, зьбіўшыся з панталыку й пазіраючы ў столь. У расчыненае вакно заляцеў чмель, гудучы сваю песьню. Янка навет узрадаваўся гэтым. Свавольная думка прыйшла ў галаву: вось-бы сеў чмель на лысіну «настаўніка». І нашто здалася яму, Янку, такая навука? Ужо лепш да самай сьмерці пасьвіць каровы... А чмель кружыўся й запраўды апусьціўся на лысіну. Канторшчык страшэнным голасам залемантаваў:

— Д'яба-а-ал, д'я-я-яб-а-а-а-л! Ой, ой, ой, ратуйце мяне!

У той-жа вечар Янка рашуча заявіў бацьку:

— Не хачу папанску вучыцца!

Дамінік узяў у рукі раменную папружку, прыгразіў сыну.

— А гэта навошта?!

Уявілася Янку, што вось-вось схопіць яго бацька, зацісьне паміж каленаў, пачне біць. Ніколі яго яшчэ ня білі. Дрыжыкі пайшлі па ўсім целе. Хочаш ня хочаш, а як сказаў бацька, так і будзе. Бо задасьць пытлю, што месца сабе ня знойдзеш.

У наступную нядзелю канторшчык задаў хлопчыку пісаць роўныя прыгожыя кружочкі. Сядзеў Янка за сталом, выводзіў іх на лістку. Адны стаялі роўненька і былі падобны на жалуды, другія расьпіналіся пабоках і курчыліся. Тады Янка прырабіў ім рожкі, ножкі хвосьцікі.

— Гэта чорцікі скачуць, праўда, Ясік? — запыталася сястра, глянуўшы на яго лісток. Засьмяялася яна й пайшла скакаць.

Добра яна скача, ды вось бяда: няма музыкі. Дадумаўся Янка, скруціў із сшытка дудку, грае. Дурэюць, дзеці, весяляцца. Ня прыкмецілі яны, як зьявіўся ў хаце бацька. Зьняў ён рэмень і моцна адсьцябаў сына. Лепш не пападацца яму пад руку, вучыць, што загадаюць, вырашыў Янка. Аднак да навукі вялікай ахвоты ён ня меў.

### ХАЧУ ЧЫТАЦЬ

У нядзелю бацька прывёз зь мястэчка Радашковічы каляндар. Гэта была першая расейская кніжка, ды яшчэ з малюнкамі, якую ўбачыў Янка. Зьдзівіў яго надпіс «Разрешено цензурой» — літары тут ня былі падобныя на польскія.

# Сёлетняе сьвяткаваньне сакавіковых урачыстасьцяў

## Мюнхэн

Беларуская калёнія ў Мюнхэне сакавіковыя ўгодкі адзначыла сёлета, з чыста тэхнічных прычынаў, толькі ў нядзелю 31 сакавіка.

Як ужо ўвайшло ў традыцыю на эміграцыі, сьвяткаваньне пачалося адумысловай Багаслужбай, якую адслужыў а. Салавей.

Пасьля гэтага ўся мюнхэнская беларуская сям'я сабралася ў залі рэстарану «Марыяндэль», дзе супольнай малітвай была адкрыта ўрачыстая Акадэмія.

Др. Ст. Станкевіч у сваім цікавым рэфэраце зьвярнуў ўвагу прысутных на тыя асноўныя цяжкасьці, што сустракаў на сваім шляху беларускі, спачатку адраджэнскі а пасьля — вызвольны рух, ды падчыркнуў нязвычайную жывучасьць, моц і прагрэс гэтага руху.

Вялікае ўражаньне на прысутных зрабіла прадэманстраваная тут-жа патрыятычная радыяперадача-мантаж беларускае сэкцыі радыя «Вызваленьне», прысьвечаная 25 Сакавіку й перададзеная на Бацькаўшчыну. Між іншым прысутныя мелі нагоду пачуць таксама справаздачу-карэспандэнцыю найграную на йстужку із сьвяткаваньня 25 Сакавіка Беларусамі ў ЗША, ды таксама шэраг патрыятычных і народных песень выкананых опэрнай сьпявачкай Б. Вержбаловіч і Н. Градэ, таксама зарэгістраваных на йстужцы.

Супольныя сьпевы, гутаркі, успаміны ў гэтай беларускай сямейнай атмасфэры дапоўнілі гэты ўдалы адвячорак.

## Манчэстэр

У нядзелю 24-га сакавіка Беларусы Манчэстэру й ваколіц годна адзначылі 39-я ўгодкі абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі.

А гадз. 12-ай ў англіканскай царкве сьв. Яна а. А. Крыт адслужыў сьв. Літургію й малебен спэцыяльна прысьвячаны 25-му Сакавіку. Па заканчэньні малебена а. Аляксандар меў прыгожае прынагоднае казаньне.

Акадэмія адбылася ў сьвятліцы Беларускага Дому. Адкрыў урачыстасьць старшыня мясцовага аддзелу ЗБВБ сп. Х. Кажаневіч.

Рэфэрат на тэму 25-га Сакавіка прачытаў сакратар мясцовага аддзелу ЗБВБ сп. М. Я-ч. Пасьля гэтага прысутныя аднамінутовай цішай ушанавалі памяць прэз. Крэчэўскага, Захаркі ды ўсіх сяброў ураду БНР і тварцоў Сакавіковага Акту, якіх ужо няма сярод жывых.

На прапанову старшыні было зьбірана на БНР 2 ф. 1 ш. 8 п.

На заканчэньне прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн.

**М. Стаўпіскі**

## Аўстралія

24-га сакавіка гг. Беларускае Аб'яднаньне ў Н. П. В. (Аўстралія) ўрачыста адсьвяткавала нашае нацыянальнае сьвята.

Настаяцель першага прыходу Беларускае Аўтакефальнае Царквы ў Аўстраліі а. Зялінскі адслужыў сьв. Літургію, а пасьля адумысловы малебен за нашую Бацькаўшчыну.

Пасьля Багаслужбы за ўпрыгожанымі сталамі засела беларуская сямейка. Старшыня Аб'яднаньня сп. К. Сіткоўскі прывітаў усіх прысутных і прачытаў кароткі рэфэрат аб 25 Сакавіку. Віцэ-старшыня Аб'яднаньня др. Я. Малецкі прачытаў рэфэрат на тэму: «У сакакавыя ўгодкі Б. Хр. Д.», аддаючы пашану ідэйным змагаром за волю нашага народу.

Пасьля адбыўся скромны пачастунак пад гукі мэлёдыяў нашых народных і патрыятычных песьняў.

Сямейка наша ў гэтым годзе была невялікая, каля 35 асобаў, але ідэйна моцная й згуртаваная. Не далічыліся мы сяньня тых сяброў, што выехалі далёка на працу. Ня было таксама між намі й Яго Высокапрэасьвяшчэнства Ўладыкі Сяргея, зь якім перад тыднем мы чула разьвіталіся: паехаў уладыка ў Пэрт, дзе пабожныя Беларусы закупілі яму кусок зямлі, хатку й будуюць царкву.

З прысутных гасьцей сп. Булаўскі сказаў палкую патрыятычную прамову ды памастацку зарганізаваў выкананьне песьні «На чужыне». Спадарыні Н. Лужынскай належыцца шчырая падзяка за арганізацыю імпрэзы.

І так яшчэ адзін год прайшоў нам на чужыне, яшчэ адзін год мукаў нашага народу пад бальшавіцкім ярмом. Але вера нашая ў канчатковае дасягненьне нашае нацыянальнае мэты — свабоднае й незалежнае Беларусі — непахісная.

**Я. Няміра**

## Мадрыд

Калі йдзе пра сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, дык невялічкая група беларускіх студэнтаў у Мадрыдзе мае за сабой ужо вытвараную пэўную традыцыю, якой яна заўсёды прытрымоўваецца. Дзеля гэтага сёлета, як і ў папярэднія гады, Сакавіковы Акт быў адзначаны сьціпла, але належна. Таму што 25-ы Сакавік выпаў у панядзелак, частку сьвяткаваньня давялося перанесьці на нядзелю 24-га Сакавіка.

У гэты-ж дзень, а гадз. 9,30, у калежы сьв. Якуба была адслужана а. Бэніто Сэгундо ўрачыстая Божая Служба, на якой былі прысутныя шматлікія студэнты розных нацыянальнасьцяў, прадстаўнікі ад дырэкцыі калежу й старэйшага грамадзтва. Айцец Сэгундо ў сваім казаньні прыпомніў прысутным пра цярпеньні беларускага народу, пра зьдзекі над ім бязбожнага бальшавізму, пра нішчэньне чырвонай Масквой усяго таго, шло беларускае, ды заклікаў усіх, каб у сваіх малітвах успомнілі таксама й пра нашых братоў, што церпяць у страшной няволі.

Абмежаваная колькасьць нашае студэнцкае моладзі ў Гішпаніі не дазваляе на арганізаваньне жывых канцэртаў народных песень і танцаў, а таму прыходзіцца абмяжоўвацца да кружэлак. Тыя што заўсёды чытаюць хроніку «Бацькаўшчыны», напэўна прыпомняць не адну зацемку адносна такіх канцэртаў. Беларуская песьня й музыка цешацца тутака вялікай папулярнасьцяй. Канцэрты з кружэлак даваліся на факультэтах, у калежах, а нашыя народныя песьні чуліся таксама й на хвалях гішпанскага радыя. Ёсьць студэнты — Гішпанцы й іншых нацыянальнасьцяў — якія знаюць мэлёдыі напамяць (прыкладам народную песьню «Пасею гурочкі» або «Камар»). Нельга не адцеміць таксама таго факту, што беларускія студэнты, ладзячы канцэрты з кружэлак, далі прыклад іншым нацыянальным групам, якія цяпер пачынаюць іх насьлядоўваць.

А гадз. 12.30, у нядзелю, быў наладжаны канцэрт беларускай песьні й музыкі з кружэлак з адумысловымі камэнтарамі. З кажным годам лік кружэлак павялічваецца й таму сёлета можна было пачуць шмат беларускіх песьняў зусім новых, іграных тут упяршыню. У праграму ўвайшлі песьні рэлігійныя, народныя й патрыятычныя, а таксама беларускія народныя танцы й музыка. На канцэрце было прысутных шмат гасьцей. Канцэрт трываў каля паўтары гадзіны й выпаў надзвычайна ўдала. На довад папулярнасьці нашых народных мэлёдыяў няхай паслужыць той факт, што акрамя бурных і працяглых воплескаў, на просьбу слухачоў некаторыя кружэлкі трэба было паўтараць.

Пасьля заканчэньня канцэрту, ад імя дырэкцыі калежу, цёплымі й шчырымі словамі, прывітаў беларускіх студэнтаў сакратар калежу сп. Білік, які ў кароткіх і зьмястоўных сказах падчыркнуў важнасьць Сакавіковага Акту ў гісторыі змаганьня беларускага народу за сваю незалежнасьць ды пажадаў Беларусам як найхутчэйшага зьдзейсьненьня іхных сьвятых ідэялаў.

Пасьля канцэрту ўсе прысутныя былі запрошаныя на скромнае прыняцьце.

У панядзелак, 25-га сакавіка а гадз. 14.20, Гішпанскае Нацыянальнае Радыё ў сваёй праграме «Гадзіна апошніх актуальнасьцяў» паінфармавала абшырна сваіх слухачоў пра Беларусь, пра падзеі, якія прывялі да паўстаньня Сакавіковага Акту, пра бальшавіцкую акупацыю нашага роднага краю й ейныя вынікі, пра змаганьне беларускага народу за свае ідэалы нягледзячы на вялікія страты, ды пра моцную веру нашага народу ў блізкую й поўную перамогу. Варта адцеміць, што гэтая праграма рэтрансьмітуецца ўсімі гішпанскімі радыястанцыямі ды з увагі на пару дня найбольш слухаецца.

Таго-ж самага дня, а гадз. 17.30 была перададзена на Беларусь праз Гішпанскае Нацыянальнае Радыё адумысловая аўдыцыя ў беларускай мове, прысьвечаная 39-ым угодкам абвешчаньня незалежнасьці БНР. Гэтая аўдыцыя спачатку мела быць перададзеная а гадз. 18.40. Нажаль, у вапошнюю хвіліну час радыяперадачы быў зьменены й таму ня было ніякай магчымасьці пра гэту зьмену паведаміць, за што перапрашаем усіх тых, каму было павядомлена пра яе раней.

У праграму аўдыцыі ўвайшоў марш «Пагоня», адумысловы артыкул прысьвечаны Акту 25-га Сакавіка й наш нацыянальны гымн.

Каля ў Гішпанію прыехалі першыя беларускія студэнты, яны мусілі пачынаць усё адпачатку. Ня мелі яны ані сяброў ані прыхільнікаў. Іх чакала піянэрская праца. Але гэныя часы ўжо мінулі. Сяньня паложаньне зьмянілася шмат. Мы ўжо не адныя й не адасобленыя. Слова Беларусь чуваць штораз часьцей на хвалях этэру, беларускія праблемы ўваходзяць на бачынкі тутэйшае прэсы. Намі пачынаюць цікавіцца й мы маем ужо шмат сяброў. Сёлета, з нагоды 39-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, пра Беларусь, пра нашае няўтомнае змаганьне з расейскаю навалай, гаварылі шмат у сваіх радыяперадачах амаль-што ўсе сэкцыі Гішпанскага Нацыянальнага Радыя. Гаварылі Эстонцы, Кітайцы, Вугорцы, гаварылі Баўгары й Румуны. Вялікую частку сваіх аўдыцыяў пасьвяцілі Беларусі Палякі, Славакі, Украінцы й Харваты, а таму на гэтым месцы дырэкцыям гэтых радыяперадачаў складаецца вялікае беларускае дзякуй.

Таму што ў Гішпаніі ў панядзелак цэнтральная прэса наагул ня выходзіць, весткі пра нашае сьвяткаваньне памясьціла адно прэса правінцыяльная. Зацемка пра 39-ыя ўгодкі Сакавіковага Акту пашырыла па ўсёй Гішпаніі й Паўдзённай Амэрыцы афіцыйная гішпанская прэсавая агенцыя „EFE“. Найпаважнейшая гішпанская газэта „La Vanguardia“, што выходзіць у Барцэлёне й паводля свайго ўзроўню адказвае англельскаму „Manchester Guardian“ памясьціла вестку пра сьвяткаваньне пад загалоўкам «Беларусь сьвяткуе свой нацыянальны дзень». Тут між іншым пісалася: «25-га сакавіка Беларусы адзначаюць урачыста 39-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці сваёй бацькаўшчыны. Беларусь здабыла сваю незалежнасьць у 1918 годзе, калі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесьціла ўсяму сьвету незалежнасьць свайго краю...

Гэтая свабода, аднак, трывала нядоўга. Саветы пастараліся зьнішчыць гэтую незалежнасьць...» Затрымоўваючыся пасьля над некаторымі мамэнтамі змаганьня беларускага народу, газэта заканчвае: «Беларусь чакае адно адпаведнага мамэнту, каб ськінуць путы няволі накінутыя ёй Масквой». Артыкулы й зацемкі іншых газэт адзначаюцца падобным зьместам і напісаныя ў падобным дусе.

На заканчэньне гэтае хронікі неабходна скласьці шчырую падзяку ўсім тым, што спрычыніліся да наладжаньня сьвяткаваньня тут нашага нацыянальнага сьвята, а асабліва паўнамоцнаму міністру Славаччыны ў Гішпаніі сп. Цекеру, сп. Ф. Хайму й сп. Кольмаеру.

**В. Сенкевіч**

# Два юнацтвы

Кавалі другія,
А ланцуг той самы —

**Якуб Колас**

Заглыбіўшыся ў творчасьць апошніх двух гадоў беларускіх савецкіх пісьменьнікаў, можна заўважыць пэўнае «раздваеньне» ў паглядах на трагічны лёс нашага народу.

Некаторыя пісьменьнікі імкнуцца пры дапамозе ўсіх даступных ім мастацкіх сяродкаў хварбаваць ружовымі колерамі сучасную нацыянальную й сацыяльную долю нашага народу. З другога-ж боку, чуюцца галасы некаторых пісьменьнікаў, што хочуць глянуць на палажэньне ў сучаснай Беларусі бязь ніякіх уяўных колераў. Канкрэтна сказаўшы — бязь сябеашуканства!

Я не паклікаюся тут на ніякія «адлігі» і ніколі не пагаджуся з тым, хто будзе шукаць іх уплываў. Магчыма яны дзеколечы й на каго-колечы ўплывалі, толькі іх нельга ніяк убачыць тут, на ўмоўна мной названым «раздваеньні» ў сучаснай беларускай савецкай літаратуры.

Гэтае «раздваеньне» ўнёс у савецкую беларускую літаратуру, магчыма нясьведама (шмат чаго вялікага было зроблена нясьведама), малады пачынаючы беларускі савецкі пісьменьнік Ул. Дадзёмаў сваёй аповесьцяй «Над Нёмнам»[1]), у якой знаходзім зусім маленькі, але вельмі трапны сказ, што характарызуе, як нельга лепш, усю савецкую сыстэму.

Пайменна, аднаму зь герояў аповесьці (працуе на тонкасуконным камбінаце ў Горадні) ў часе дыскусіі над выкананым плянам, які выконваўся сярэднявечнай нявольніцкай сыстэмай, вырываецца сказ: «Выканалі плян — але як?»

Якім чынам, на карысьць расейскай пануючай нацыі ў СССР, быў выкананы гэты плян, нашаму беларускаму чытачу добра ведама. Дый гэта не галоўнае ў нашым артыкуле. Тут галоўнае тое, што гэты маленькі як моль і крылаты як сокал сказ вырваўся з грудзей беларускага работніка, не залежваўся ў слоўніку, а лётаў па ўсей Беларусі, выклікаючы сотні падобных пытаньняў. «Атрымалі на працадзень — але колькі?» «Выпрадукавалі машын — але каму?» «Выдалі кніг — але якіх?» Аж нарэшце, пасьля гадоў, трапіў у Польшчу, дзе ў «Новай Культуры»[2]) прагучэў: «Парлямант — але які?»

Раман Сабаленка ў мінулагоднім «Полымі»[3]) зьмясьціў аповесьць «Юнацтва ў дарозе», якую крытыка сустрэла, як біяграфічную аповесьць аўтара. Праўдзівасьць зьместу аповесьці ня выклікае ў чытача вялікіх сумлеваў. Магчыма так і было. Дзея адбываецца ў дваццатых гадох, каторых ніхто на Беларусі шчасьлівымі не **загадваў** называць, ды якія па ўсіх абставінах таго часу на называньне шчасьлівымі не прэтэндуюць. Сваім задумам яна не адказвае вымогам, якія ставіць камуністычная партыя перад пісьменьнікамі — сучаснасьць тэматыкі. І была напісаная з мэтай, каб паказаць маладому пакаленьню, як было дрэнна раней. І як мужна змагаліся Раманы Сабаленкі, каб дайсьці да такога заможнага жыцьця, як цяпер.

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

— Тата, я хачу чытаць гэтую кнігу!

— Зямля твая навука, ня кніга. Кнігі не для нас — для паноў пішуцца... — з горычай адказаў бацька й закашляўся, прыкладаючы да ўпалых грудзей напрацаваныя рукі.

— Ці-ж я не хацеў сам вывесьці цябе ў людзі, вучыць... Ды ці выходзіць так, як хочаш? Спытайся ў маці. Сала, шынкі, масла — усё аддавала яна таму канторшчыку. Ды яму й гэтага мала. Патрабуе прыбаўкі... Лепш ужо, Ясь, не заглядайся на кнігі. Паслухай мяне, ня будзе з гэтага толку...

На досьвітку, як заўсёды, падняўся Ясь, каб гнаць у поле жывёлу. Бацькі ўжо ня было ў хаце. На стале прыкрытыя краем чыстага настольніка, стаялі збаны з сырадоем. Ля печы завіхалася маці. Янка прабраўся на покуць, дастаў зза абраза кніжку, якую прывёз бацька, і схаваў яе за пазуху. Як хацелася яму навучыцца чытаць! Толькі як гэта зрабіць? Хто пакажа, навучыць? Маці? Добрая, ласкавая маці, яна ахвотна сьпявала яму песьні, але ня ўмела чытаць і не магла дапамагчы ў яго бядзе. Бацька? Да яго лепш не зьвяртацца. Ён хворы, ледзь працуе й зноў вінаваты пану... Ды й граматы яго мала вучылі.

Белагаловы Янка засмуціўся. Гадзінамі ў полі праседжваў над незразумелай кніжкай. Некаторыя літары траплялся знаёмыя, іншых ён зусім ня ведаў і слоў скласьці ня мог. Сядзеў, вадзіў пальцам, шаптаў. У гэты час з малымі сёстрамі заставалася нянька. Паслаў аднойчы бацька няньку, каб паглядзела, дзе скаціна пасецца. Стала яна ля Янкі, дзівіцца зь яго.

— Што з табой робіцца, Ясю?

Хлопчык зьбянтэжыўся, апусьціў галаву, потым, ня таячыся, расказаў аб сваім горы.

— Па такой бядзе жыць можна. Не бядуй, Яначка! Як я маладая была, адзін паніч, студэнтам ён быў, трошкі вучыў мяне граматы. Пашукаю ў сваім куфэрку, там недзе буквар ёсьць. Аддам яго табе — вывучыш літары й пачнеш чытаць...

Назаўтра Янка лавіў кажны шолах. Хоць-бы хутчэй пачуць знаёмыя лёгкія крокі. Стрымала яна слова, прынесла буквар ды яшчэ дапамагла вывучыць літары.

Праз тыдзень Янка чытаў і з таго часу ніколі не расставаўся з кнігай.

Акуратна плаціў Луцэвіч пану за арэнду. А зімою пала ў яго карова, туга стала. Пан ня хоча пачакаць, патрабуе — плаці.

Пад ноч, вяртаючыся з работы, бацька ўбачыў, як прагна чытае сын, і забурчэў:

— Панская выдумка, так і газы не набярэшся...

Тады хлопчык стаў чытаць пры лучыне. Маці прадзе, а ён, прыхінуўшыся да прыпеку, чытае...

Бывала й так. Пасецца ў лесе жывёла. Янка раскладзе невялічкі агеньчык у зацішку, пакладзе туды корч, каб даўжэй гарэў, а сам — за кнігу...

Калі дома зьбіраліся на абед, Дамінік заўсёды напамінаў жонцы:

— Пашлі дзяўчатак, няхай паглядзяць, дзе жывёла. Чуе маё сэрца, што ў шкоду ўбілася.

— Дык там-жа Ясік! — усьміхнецца Бянігда.

А сама ўжо ня раз пасылала дзяўчатак. Тыя пойдуць, адгоняць кароў ад гароху, выганяць авечак з аўса. А Янка так зачытаўся, што ня бачыць і ня чуе. Толькі сёстры вельмі любілі старэйшага брата і ня скардзіліся бацьку.

### РАНЬНЯЙ ВЯСНОЮ

Надыйшла вясна. Удзень і ўначы за вокнамі серабрысты звон капяжу. Загаманілі ручаі ў полі. Майструюць хлапчукі карабельчыкі з сасновай кары, пускаюць іх па лужынах. І Янка разам зь імі. Недалёка ад хаткі Луцэвічаў усю зіму й вясну палілася пячурка. Яна абагравала багатыя цяпліцы.

Ідучы ў поле, Бянігда заўсёды наказвала дзецям:

— Гуляйце ля свайго ганку — барані Божа, да вагню не падходзьце.

Загуляўся зь вясковымі хлопчыкамі Янка. Пакруцілася ля іх і адбегла ў бок сярэдняя Янкава сястра Маня, хочацца ёй пагрэцца. Печка-ж распалілася, аж чырвоная стала. Патрэскваюць, шыпяць у ёй дровы, быццам запрашаюць: «Хадзі, пагрэйся...»

І хочацца Мані падыйсьці бліжэй, паглядзець. Яна аглянулася на брата, асьцярожна крадзецца да вагню.

— Няможна, Маня! Назад! — крычыць ёй Янка.

Адзін раз вярнуў, другі, а пасьля не дагледзеў.

Вось Маня ля самай печкі.

«Я чапаць агню ня буду, толькі пагрэюся» — думае дзяўчынка. Стала і зажмурылася ад здаваленьня. Добра, што ніхто із старэйшых ня бачыць. Ані ня страшна. Зусім блізка пырхае жоўтагрудая сінічка, вось-вось сядзе на траву.

— Цінь-цінь-ці-і-інь...

Каб не спалохаць птушку, Маня бліжэй туліцца да вагню. Раптам на сьпіне ў яе задымілася, затлела сіняя паркалёвая сукенка. Шугануў агонь, разьдзьмуты ветрам, падабраўся да белых Маніных кос. Нясьцерпны боль і крык:

— Ма-а-ама!

Янка сарваўся зь месца. Ня чуючы пад сабой ног, паімчаў да сястры. Здаецца, рукой падаць, і сьпяшаецца ён на ўсю моц. Ды ці-ж угонішся за вагнём? Сэкунды не прайшло, а ўжо гарыць Маня, гараць каля яе сухія кусты, леташняя трава. Босымі нагамі топча іх Янка, зрывае зь сястры ашмоткі сукенкі, кашулі, кідае іх на зямлю. Хавае галоўку Мані ў сябе пад сьвіткай на грудзях. Ён хоча крыкнуць, паклікаць на дапамогу і толькі разяўляе рот. Вакол ужо мітусяцца людзі з цэбрамі, вёдрамі. Абліваюць малую вадой. Жанчыны пачынаюць галасіць. Янка заплюшчвае вочы. Галашэньні надрываюць яму душу...

Нехта здагадаўся паклікаць бабку Караліху. Прыйшла, паглядзела і коратка загадала:

— Нясеце ў хату!

У хаце бабка хутка нацёрла сырой бульбы, мучністай ружовай масай пакрыла твар і цела дзяўчынкі. Як вялікая птушка, яна бясшумна хадзіла вакол ложка. Агледзела й Янку. Усе рукі й ногі яго ў пухірах, твар апечаны, абгарэлі вейкі й бровы.

— Баліць? — спачувальна пытае бабка.

— Не-е... — аднымі вуснамі адказаў ён, не адрываючы вачэй ад Мані.

Шмат бачыла на сваім вяку бабка Караліха, выгадавала сыноў і ўнукаў. Прыгажуняй была ў маладосьці. Убачыў яе аднойчы тутэйшы пан і страціў спакой. Згодны быў золатам яе асыпаць, маёнтак ёй адпісаць, толькі-б стала яго жонкай. Караліха адмовіла пану, выйшла замуж за яго парабка. Цяпер ужо старая яна, зьбірае травы, сушыць іх, лечыць імі ад хвароб. Усе ідуць да яе, каб дапамагла, параіла. Ведаў гэта Янка і ўвесь здрыгануўся, калі, пагладзіўшы яго па галаве, яна нечакана сказала:

— Вучыся, нябожа! Чалавекам будзеш...

**(Далей будзе)**

